# наша свабода

№33(120) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

28 САКАВІКА
2001 года
СЕРАДА

Адрас: 220123,
г.Мінск, а/я 103

E-mail:
NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ





ВЫБАР

## «Государственная власть хочет диктовать...»

*Интервью Владимира Гончарика*

*Председатель Федерации профсоюзов Белорусской Владимир Гончарик осторожен в общении с журналистами. Однако для НАШАЙ СВАБОДЫ лидер ФПБ сделал исключение, поделившись своим видением нынешнего положения в Беларуси, а также приоткрыв некоторые тайны закулисной борьбы президентской администрации с профсоюзамі. Взгляды В.Гончарика представляют интерес, поскольку лидер ФПБ претендует побороться за президентский пост на предстоящих выборах.*

***— Владимир Иванович! За 15 лет Вашего руководства профсоюзами ФПБ еще ни разу, за исключением советского времени, когда профсоюзы являлись «приводными ремнями власти», Вам не доводилось сталкиваться с таким давлением со стороны власти, как в последний год. Если честно: Вам никогда не приходила в голову мысль бросить все и уйти в отставку?***

— Скажем так: мне советовали это сделать и друзья, и недруги, в частности, в администрации президента. Ну, и семья. Но не хотелось оставлять профсоюзы в такие времена. Истоки сложных отношений с нынешней властью идут со времени первого Всебелорусского собрания, когда я, находясь в президиуме, проголосовал против изменений в Конституцию и против некоторых положений «Основных направлений...» Именно тогда последовала первая негативная реакция со стороны властей на деятельность Федерации, а дальше пошло по восходящей... ▶

*Окончание на стр.3*

## Прадстаўнікі рэжыму кантралююць адзін аднаго

Старшыня Партыі БНФ Вінцук Вячорка, намеснік старшыні Аляксей Кавалец, старшыня АГП Анатоль Лябедзька, намеснік старшыні БСДП (НГ) Аляксей Кароль, сябра праваабарончага цэнтра «Вясна» Барыс Гюнтэр правялі прэс-канферэнцыю, прысвечаную падзеям 25 сакавіка ў Мінску.

Мірная дэманстрацыя на Дзень Волі была гвалтоўна разагнаная, былі збітыя і затрыманыя ўдзельнікі акцыі. Як заявіў Анатоль Лябедзька, «міністр унутраных справаў Навумаў гуляў у маленькую Чачню». Той факт, што за акцыю былі персанальна адказныя Навумаў і Мясніковіч, гаворыць пра тое, што прадстаўнікі рэжыму «адзін аднаго кантралююць», сказаў Вінцук Вячорка.

Удзельнікі прэс-канферэнцыі лічаць: падзеі 25 сакавіка сведчаць, што супрацьстаянне да самых прэзідэнцкіх выбараў будзе ўзрастаць, але дэмакратычныя сілы будуць рыхтавацца да перамогі.

**Прэс-група БНФ і Партыі БНФ**

# У Калінінградзе АМАПа не было




25 сакавіка ў будынку старажытнага Кёнігсбергскага універсітэта а 15 гадзіне гімнам БНР на словы М.Краўцова адкрыўся ўрачысты сход, прысвечаны 83-яй гадавіне Дня Волі. Арганізатарам імпрэзы выступіла Калінінградскае рэгіянальнае аб'яднанне «Беларускае таварыства культуры».

Цікавым было выступленне выкладчыка Калінінградскага дзяржаўнага універсітэта гісторыка-беларуса А.Чумакова аб разбурэнні стэрэатыпаў савецкага часу ў выкладанні гісторыі славянскіх народаў у расійскіх ВНУ. Прысутных павіншаваў кіраўнік украінскай дыяспары прарэктар КДУ А.Касцюк.

Усе былі згодныя ў тым, што толькі ўласнымі сіламі мы зможам збудаваць «беларускі дом», і «архітэктурным праектам» гэтага дома стаўся Акт 25 сакавіка. Зразумела, не магло абмінуць увагай наша свята і аддзяленне пасольства РБ у Калінінградзе. Запалохаўшы самую «незалежную» газету вобласці «Калининградскую правду», каб тая не друкавала інфармацыйны матэрыял, яно безвынікова выгаворвала адміністрацыі КДУ, якая дазволіла правесці «экстрэмісцкае зборышча».

**Адам КАРАЛЯВЕЦКІ**

# КГБ выходит на лыжню конфронтации

*Председатель КГБ Беларуси Леонид Ерин обещает пересмотр политики в отношении всего иностранного, с целью защиты государственных интересов*

Ожидания возможных президентских выборов в этом году, естественно, способствуют повышению температуры «горения» на рабочих местах всех служащих правящему режиму. Рамки своего видения положения, при котором можно будет удержать власть любой ценой, заданы в новой концепции национальной безопасности. А одним из ее исполнителей призвано стать КГБ, со своим обновленным руководством. Последнее выступление председателя КГБ Леонида Ерина по белорусскому телевидению вполне отвечало духу заветов авторитетного Дзержинского и других видных деятелей защиты государственных интересов. Что касается «заботы» о гражданах, то она преимущественно касается иностранцев и тех, кто «поддерживают с ними непосредственные связи». В отличие от своего немногословного предшественника, новый руководитель Комитета госбезопасности очень ясно заявил о советской сущности вверенной ему структуры — держать и не пущать, контролировать все, о чем думают подданные и неподданные режима.

Не секрет, что приход полковника ФСБ Леонида Ерина в КГБ Беларуси был встречен самими чекистами неоднозначно. Об этом говорил и А.Лукашенко, когда представлял уже генерала Л.Ерина на должность председателя Комитета. О новом кадре было известно немного. Говорят, потомственный чекист начинал свою трудовую деятельность в должности обыкновенного инструктора по физической культуре на Витебщине. В таком виде спорта, как лыжные гонки, достиг звания то ли кандидата, то ли мастера спорта. Но что-то на ежегодной минской лыжне его не отмечали. Из Витебска, неожиданно для многих знакомых, Л.Ерин уехал в Москву, где закончил одно из учебных заведений КГБ и стал специалистом по вопросам экономики. Как известно, в Минск он переехал, служа в одном из подразделений по транспорту УФСБ по Московской области. Тогда говорили, что его перетянул в Минск Виктор Шейман, с которым пересекались боевые биографии в Афганистане. Так уж случилось, что два генерала-афганца нынче плотно опекают по долгу службы третьего — бывшего комдива Витебской авиадесантной дивизии генерала Евгения Бочарова, оказавшегося в оппозиции правящему режиму. Интересно, где произойдет их возможная встреча?

Первый раз публичное выступление Л.Ерина состоялось в Овальном зале, где заседал Верховный Совет. Было это незадолго до приснопамятных событий ноября 1996 года, после которых народных избранников просто разогнали. И возник новый политический строй. С довольно своеобразным пониманием разделения властей — на могучий ствол и ветви. Все ли помнят, кто говорил об этом, и осознают ли служивые, в каком состоянии эта конструкция оказалась сегодня? Помнится и другое. Уже тогда Л.Ерин предупреждал о том, что одним из возможных последствий проведения так называемого референдума будет внешнеполитическая изоляция и активизация западных спецслужб в отношении Беларуси. Так и произошло. Международное сообщество итоги референдума не приняло, а непредсказуемость и экстравагантность руководителя Беларуси стала вызывать и вызывает до сих пор беспокойство в различных столицах. Очевидно, что в связи с этим прогнозировать ситуацию вокруг Беларуси там пытаются и с помощью спецслужб. В своем телевыступлении Л.Ерин признал право «любого другого цивилизованного демократического государства, имеющего спецслужбы, вести отслеживание...». Правда, в такого рода государствах спецслужбы находятся под парламентским и гражданским контролем. Следует отметить, что под контролем понимается и реальное управление силовыми структурами. Общеизвестно, что после ноября 1996 года в Беларуси не только контролем, но даже законодательной инициативой палаточные депутаты не обладают. ▶

*Окончание на стр.3*

НАВІНЫ

■ **Мяркуецца, што ў хуткім часе ў Адміністратыўны кодэкс Беларусі будзе ўведзены пункт аб штрафным пакаранні за карыстанне мабільным тэлефонам падчас кіравання машынай.** На сённяшні дзень правіламі дарожнага руху прадугледжана, што гаварыць па мабільніку, едучы ў аўтамабілі, забаронена, але якой мусіць быць форма пакарання за гэта, там не агаворана.

■ **У бліжэйшы час міністэрства абароны перадасць міністэрству ўнутраных справаў 7 мільёнаў аўтаматных патронаў калібру 5,45 мм.** Яны будуць узятыя з дзяржаўнага стратэгічнага рэзерву ўзбраення, ваеннай тэхнікі і боепрыпасаў. У МУС кажуць, што патроны неабходныя для службова-баявых аперацыяў і баявой падрыхтоўкі салдатаў унутраных войскаў.

■ **Міністэрства замежных справаў Беларусі паведаміла, што да Шэнгенскага пагаднення далучыліся яшчэ 5 краінаў.** З 25 сакавіка палажэнні гэтага пагаднення ўступаюць у сілу на тэрыторыях Даніі, Швецыі, Фінляндыі, Нарвегіі і Ісландыі.

■ **За 2 месяцы 2001 года праграма ліквідацыі і мінімізацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, разлічаная на 2001-2005 гады, прафінансаваная на 10%.** Дзейнасць Камчарнобыля недафінансаваная на 5 мільярдаў рублёў. Хоць да 15-ай гадавіны чарнобыльскай трагедыі ўрад краіны абяцаў прыярытэтнае фінансаванне.

■ **У Беларусі будуць здабываць ёд і бром: штогадовую здабычу мяркуецца давесці адпаведна да 1,2 тоны і 160 тонаў.** Адмысловая ўстаноўка будзе ўсталяваная на адной са свідравінаў Акцябрскага раёна на Гомельшчыне. Выпрабаванні ўстаноўкі плануецца правесці ў сёлетнім траўні.

■ **У Беларусі аб'яўлена пра заканчэнне эпідэміі грыпу і падведзеныя ейныя вынікі.** Адзначаецца, што ў параўнанні з мінулым годам сёлета беларусы хварэлі меней. Так, у Мінску на грып і ВРЗ перахварэла каля 100 тысячаў чалавек, прычым 45% з іх – дзеці.

■ **У сувязі з распаўсюджваннем у Еўропе яшчурнай хваробы Латвія зачыняе памежны пункт Піедруе, што на латвійска-беларускай мяжы.** Такое рашэнне прынятае з-за таго, што на гэтым памежпераходзе няма санінспектараў, здольных правесці калі што дэзінфекцыю.

НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru



Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1320

